

# НавіНЫ
## БНФ

**нумар 20 (98)**
**студзень 2008**





# Трымайся, Зьміцер!

Зьміцер Жалезьнічэнка – асоба месяца ня толькі для Партыі БНФ, але і для ўсяго беларускага незалежнага грамадзтва. 7 верасьня 2007 году выдатнік вучобы, які не меў пропускаў заняткаў, быў адлічаны з III курсу матэматычнага факультэту Гомельскага унівэрсытэту імя Ф.Скарыны. Адміністрацыя ВНУ матывавала сваё рашэнне «сыстэматычным парушэньнем правілаў унутранага распарадку». Але няма сумневаў, што адлічэньне зьвязанае зь ягонай актыўнай дзейнасьцю ў Партыі БНФ. Дзякуючы стойкасьці Зьмітра, уладная сыстэма дала збой і 16 студзеня 2008 году рашэньне адміністрацыі ВНУ аб адлічэньні было адмененае судом Цэнтральнага раёну Гомелю. Зьміцер быў узноўлены на месцы вучобы... і праз дзень зноў адлічаны. Адчуўшы сваю слабасьць перад воляй юнака, улады вырашылі ізаляваць Зьмітра, у сьпешным парадку адправіўшы яго ў войска.

Трапіўшы ў вайсковую частку ўжо 25 студзеня, Зьміцер Жалезьнічэнка працягнуў змагацца за аднаўленьне ва ўнівэрсытэце і за тое, каб загады яму аддаваліся на беларускай мове. З 25 студзеня Зьміцер абвесьціў галадоўку, што выклікала сапраўдную гістэрыку ва ўладаў: у СМІ зьявіліся паведамленьні Міністэрства абароны РБ, а яго цэнтральны ворган - "Белорусская военная газета" нават прысьвяціла сытуацыі са Зьмітром велічэзны артыкул "Дима Железниченко как зеркало несостоявшейся «васильковой революции»".

Зьміцер Жалезьнічэнка – узор мужнасьці ў змаганьні ня столькі за свае правы, колькі за нацыянальныя каштоўнасьці. Цягам няпоўнага месяцу ён стаўся сымбалем нацыянальнага адраджэньня і для нас, і для ўладаў. Сёньня вельмі важна падтрымаць Зьмітра ўсімі магчымымі спосабамі, прадэманстраваць нашую зь ім салідарнасьць.



НавіНЫ
БНФ

**Галоўны рэдактар:** Ната Сеина
**Выпускны рэдактар:** Франак Вячорка

**E-mail:** pbnf@pbnf.org
**Адрас** 220005, Менск вул. Варвашэні 8, Сядзіба БНФ

№20 (98), студзень 2008г
наклад 299 ас.
Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакумэнтацыі

*Прайшло крыху больш за месяц з часу нашага апошняга Зьезду, і я меў магчымасьць крыху разабрацца ў нашай партыйнай сытуацыі. Я маю з чым параўноўваць, бо быў кіраўніком нашай арганізацыі да 1999 году (што праўда, крыху ў цені Зянона Пазьняка).*

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ**

# ІДЭЯ БЕЗ АРГАНІЗАЦЫІ – НІШТО

## Даклад старшыні Партыі БНФ на студзеньскім Сойме

За гэты час магчымасьці рэальнай фронтаўскай працы на парадак пагоршалі (рэжым умацаваўся і падпарадкаваў сабе вялікія сэгмэнты грамадзтва), у той час як папярэдняе кіраўніцтва на чале зь Вінцуком Вячоркам зра-біла шмат рэчаў, якіх ані Пазьняк, ані я, ані тагачасныя намесьнікі старшыні ды сакратары Ўправы тады проста не рабілі. У прыватнасьці, у шмат разоў падвысіўся міжнародны аўтарытэт БНФ, арганізаваная партыйная вучоба; роля рэгіёнаў у параўнаньні з роляй Менску ў дзейнасьці Фронту значна падвысілася (што, дарэчы, не заўсёды мела станоўчы вынік, бо пагоршала сытуацыя ў гора-дзе Менску); куды лепш як за тых часоў арганізаваная праца канцылярыі сядзібы партыі, узьнікла Моладзь БНФ, друкаванай прадукцыі ў сядзібе паболела ў шмат разоў; культурніцкая дзейнасьць набыла куды шырэйшыя маштабы, стала бліжэйшаю да сьветаадчуваньня сучаснага пакаленьня... Можна пералічваць і іншыя значныя здабыткі, да якіх спрычыніліся і сп.Вячорка, і сп.Хадыка, і сп.Івашкевіч, і сп.Янукевіч, і, на пэўных этапах, сп. Кавалец, сябры тагачаснай Управы й многія нашы самаахвярныя мясцовыя кіраўнікі... і шмат хто з тых, каго тут проста немагчыма назваць.

І разам з тым... Разам з тым падчас мінулага зьезду я пачуў з вуснаў аднаго незнаёмага мне маладога чалавека, дэлегата нашага форуму, словы: "Трэба выбіраць іншага кіраўніка, бо **горш, чым ёсьць, быць ужо ня можа**..." На што я тады зрэагаваў: "Можа, і можа быць нашмат горш". Горш будзе, калі кіраўніцтва партыі пачне ўспрымаць яе як месца, дзе можна вырашаць свае асабістыя праблемы, ну, а астатняе... па меры наяўнасьці вольнага часу і ахвоты. Як правіла, апошніх у гэткім выпадку якраз і бракуе. Нічога незвычайнага ў тым, што сярод шараговых сяброў партыі ў пэўнай меры могуць выяўляцца такія настроі, наагул няма. Але кіраўніцтва палітычнай партыі ў нашай сучаснай Беларусі павінна адназначна кіравацца іншай псыхалёгіяй: "Зрабі, што можаш, для іншага. І не чакай за гэта падзякі". Людзей з гэткімі прынцыпамі, дарэчы, у Фронце нямала. На іх я як кіраўнік партыі якраз зьбіраюся абапірацца ў сваёй штодзённай працы ў першую чаргу.

На апошнім Зьезьдзе ў выступе аднаго з прэтэндэнтаў на пасаду Старшыні партыі прагучала нешта накшталт таго, што "я прывяду Партыю БНФ да ўлады". Вядома, мы павінны адзін аднаго натхняць і падтрымліваць ва ўсім. Але за час майго старшынёўства я нашу партыю да ўлады не прывяду, гэта дакладна. Я не Астап Бэндэр і добра разумею: суседняя краіна зь яе вялізнымі рэсурсамі заўсёды знойдзе, як і каго купіць, каб БНФ сам непасрэдна ў Беларусі да ўлады не прыйшоў. Гэта не паражэнскія настроі, гэта факт. Дзеля гэтага Масква шмат гадоў наўпрост ці ўскосна спансаруе тутэйшае чыноўніцтва, а самае галоўнае, тутэйшае тэлебачаньне, газэты ды інтэрнэт, а таксама расейскую каланіяльную сыстэму адукацыі (і ня толькі сыстэму адукацыі) у Беларусі. Я далёкі ад пазьнякоўскага максымалізму (**усё** або **нічога**) і бачу будучыню і пэрспэктыву ў тым, што наша партыя будзе рана ці позна істотным чынам уплываць на працэсы прыняцьця рашэньняў, што датычаць лёсаў нашай краіны. У адрозьненьне ад суседкі Ўкраіны, нам трэба паклаэсьці нямала намаганьняў, каб да ўлады ў нас прыйшоў не... яшчэ ня Віктар Юшчанка, і тым больш, ня Юлія Цімашэнка. Нам хоць бы пакуль што свайго Януковіча займець, які, дарэчы, на словах не выракаецца ўкраінскай дзяржаўнасьці ды мовы й хоча спадабацца Захаду.

### А што ж сёньня?

Трэба рэальна ацэньваць сытуацыю, абапіраючыся на тое, што нам кажуць сацыёлягі. 75% нашага насельніцтва ня хоча аніякіх рэзкіх зьменаў у сваім жыцьці. Не таму, што ўсе гэтыя людзі сваім жыцьцём задаволеныя, не, гэта ня так. Але патэрналізм, які сядзіць у крыві, асабліва пасьля шматгадовага культываваньня яго камуністычнай уладай, сам сабою ў людзей нікуды не зьнікае. І для іх прапанова любых рэальных рэформаў (у эканоміцы, у моўнай сфэры, у сацыяльнай палітыцы, нарэшце, у падыходзе да фармаваньня ўлады праз выбары) горшая за любыя выбрыкі сёньняшняга рэжыму.

Зь іншага боку, ёсьць іншыя 25%. Гэта людзі, якія не прымаюць сёньняшні рэжым і на любых выбарах з прынцыпу прагаласуюць супраць яго: дзеля гэтага іх, наагул, ня трэба асабліва агітаваць. 5% сярод гэтых людзей — нашы бясспрэчныя прыхільнікі, астатнія 20% або належаць да "кухоннай апазыцыі", або раздражнёныя на нас, напрыклад, за нашу пасьлядоўнасьць у карыстаньні беларускай мовай. Перадусім сярод гэтай катэгорыі людзей мы надалей павінны ўмацоўваць сваё апірышча.

### Інфармацыя

Што да міту пра недаінфармаванасьць нашых людзей і зьвязаныя з гэтым іх спэцыфі-

чныя сацыяльныя паводзіны, хацеў бы тут заўважыць наступнае. Праблема ня ў тым, што людзям **няма адкуль** браць праўдзівую інфармацыю (яе сёньня – у інтэрнэце, незалежнай прэсе, праграмах "Свабоды" і г.д. – наагул хапае), праблема ў тым, што ў гэткай інфармацыі, па вялікім рахунку, у нашых суграмадзянаў **няма ніякай патрэбы**: больш за тое, людзі праўды хутчэй баяцца, хаваюцца ад яе, злуюцца на яе. Усім добра вядома, што чалавек зь дзяцінства аддае перавагу казкам (бо ў іх абавязковы хэпі-энд) перад рэалістычнай прозай. І большасьць людзей, нават пасівеўшы, да канца жыцьця застаецца ў гэтым інфантыльным стане.

## Прадпрымальнікі

Нядаўнія пратэсты прадпрымальнікаў, перадусім у Менску, якія сёньня заслугоўваюць нашай безумоўнай падтрымкі, паказваюць адначасна і рэальны патэнцыял, і слабасьць грамадзянскае супольнасьці ў Беларусі.

## Расея

Рэжым атрымаў і, відаць, будзе пастаянна атрымліваць з Масквы тую дапамогу, якая не дапусьціць масавага і рэзкага павелічэньня недаверу да тутэйшай кіроўнай клікі. У верагоднасьць таго, што Масква зробіць якія-кольвечы рэальныя крокі, каб аслабіць пазыцыі рэжыму Лукашэнкі ў нашай краіне, ня верыць ужо нават спадар Калякін: пачытайце тую самую газэту "Товарищ". Разам з тым, Дамоклавым мечам над нашай дзяржаўнасьцю вісіць няспыннае імкненьне маскоўскай імпэрскай улады якім-небудзь пернікам завабіць альбо якой-небудзь пугаю загнаць Беларусь у яе жалезныя абдымкі – прычым усё гэта робіцца ў нейкіх лазьнях... адным словам, пад покрывам начы.

## Партыя БНФ

Пры ўсім гэтым, калі мы вернемся да нашых дарагіх суайчыньнікаў, трэба мець на ўвазе наступнае. Людзі ў сваёй масе нас шчыра не палюбяць, але іх значная частка хоча мець хоць бы тэарэтычную альтэрнатыву любой ўладзе (гэтая – не выключэньне). Мы доўга гаварылі (і цяпер ад гэтых слоў не адмаўляемся), што нашая галоўная сіла – у нашых справядлівых ідэях. Але **ідэя без арганізацыі** – гэта сёньня **нішто**. Адсюль высноза: людзі не, не палюбяць, але могуць запаважаць толькі **арганізацыю** – моцную, дынамічную, нават рэактыўную. Партыя БНФ павінна зрабіцца і быць гэткай. Інакш яна ня выжыве, як, хутчэй за ўсё, ня выжыве, не перажывае тады й незалежная Беларусь.

На гэтым шляху, стварэньня мацнейшага БНФ, давядзецца мяняць арганізацыйныя прынцыпы, рэгляманты, лідэраў, арганізацыю аналітычнай працы і г.д. Нехта будзе нам сыпаць пясок у буксы, нехта адыдзе, нехта страціць сілы й надзею, але іншага выйсьця, як я мяркую, у нас проста няма.

## 2008 год

Адсюль вынікае, што год 2008-ы павінен стаць ня толькі, згодна з прынятымі намі плянамі, **годам беларускай дзяржаўнасьці** і **годам парляманцкіх выбараў** – ён павінен стаць і **годам Партыі БНФ**, які павінен будзе мець і свой працяг. Прыярытэт партыйнай дзейнасьці перад кааліцыйнай павінен быць выразным, хоць увесь крыж кааліцыйных абавязкаў мы павінны на сабе несьці й далей.

## Кангрэс АДС

У кааліцыйнай дзейнасьці можна было б падумаць над арганізацыяй яшчэ аднаго Кангрэсу дэмакратычных сілаў (сярод вышэйзгаданых 25% гэты форум мае высокую ступень даверу й легітымнасьці), але без вырашэньня пэрсанальных пытаньняў, а ў выглядзе масавага форуму "Што мы прапануем сучаснай Беларусі" з сэкцыямі, круглымі сталамі й г.д. Але гэта пакуль што толькі мае прыватныя разважаньні.

## Аляксандр Мілінкевіч

У дачыненьнях з Аляксандрам Мілінкевічам і яго нараджанай структурай мы павінны перш за ўсё браць пад увагу той чыньнік, што чым далей мы будзем знаходзіцца ад 2006 году, тым у яго будзе менш шанцаў застацца прывабнай пэрсанальнай альтэрнатывай сёньняшняму правадыру. Спадар Мілінкевіч на 7 гадоў старэйшы за сп.Лукашэнку, і ў 2011 годзе яму будзе 64 гады. Хто ўдзельнічаў у выбарчых кампаніях, цудоўна ведае, што нашы выбаршчыкі, сярод якіх пэнсіянэры складаюць рэальна каля паловы складу, ня надта ахвоча галасуюць за пэнсіянэраў – ужо хоць бы таму, што патаемна зайздросьцяць і лёгка вераць чуткам, што ў "таго гада пэнсія большая, чым у мяне". Шанец на тое, каб арганізаваць вакол сябе хоць бы нацыянальна-сьведамы інтэлектуальны патэнцыял у сп.Мілінкевіча, відаць, незваротна мінуў: у гэтым аспэкце Партыя БНФ мае куды большы аўтарытэт, бо за намі яшчэ і ўся наша гісторыя, дзе мы ніколі ня здраджвалі беларускасьці й эўрапейскасьці. Усё гэта я гавару пры маёй асабістай глыбокай сымпатыі да Аляксандра Мілінкевіча як прыемнага ва ўсіх адносінах суразмоўцы, увогуле выхаванага і разумнага чалавека. Гавару з пэўным жалем.



Пабудова моцнай арганізацыі – задача зусім ня простая, яна патрабуе цярпеньня, велізарнага нэрвовага напружаньня – і без матэрыяльнага кампанэнту тут таксама не абысьціся. Гэтая праблема, дарэчы, стаіць досыць востра, і папярэдняе кіраўніцтва, нягледзячы на велізарныя намаганьні, вырашыла яе толькі часткова. У 1999 годзе, калі вырашалася пытаньне далейшага лёсу партыі, я актыўна прапаноўваў сп.Вінцука Вячорку на пасаду старшыні яшчэ й з тае прычыны, што функцыянаваньне нашай структуры не ўяўлялася бяз шчыльнага кантакту з трэцім сэктарам, у якім сп. Вінцук меў рэальную значную вагу. Працэс, так бы мовіць, NGO'ізацыі Фронту ў той час быў абсалютна непазьбежным злом. З часам, аднак, і тагачаснаму нашаму старшыні, і шэрагу іншых кіраўнікоў арганізацыі рабілася ўсё больш і больш зразумела: ператварэньне партыі ў прыдатак да сеткі NGO ня можа быць дапушчальным. Альтэрнатыўныя крыніцы падтрымкі партыі ў прынцыпе ёсьць і нават могуць быць створаныя. Але над гэтым пытаньнем новай управе і яе сакратарыяту трэба працаваць з патройнай энэргіяй. Адначасова выказваю спадзяваньне, што абяцаньні, якія падчас апошняга Зьезду партыі гучалі ў выступах прэтэндэнтаў на пасады старшыні й намесьнікаў старшыні грунтаваліся на нечым рэальным і будуць зьдзейсьненыя. Калі ж маё знаходжаньне на пасадзе старшыні будзе ў гэтым неяк перашкаджаць, прашу (адкрыта або канфідэнцыйна) мяне пра гэта паінфармаваць і я, у выпадку неабходнасьці, паскору падрыхтоўку да новага Зьезду і майго пераабраньня.

Вось жа, зьдзяйсьненьне нашых галоўных задачаў гэтага году ў кожным разе патрабуе рэформы кіраваньня нашай партыяй, якая была ў найважнейшых аспэктах ухваленая ўчора нашай палітычнай камісіяй і якую я буду прэзэнтаваць падчас абмеркаваньня арганізацыйнага пытаньня. Я вельмі буду прасіць Высокі Сойм падтрымаць мае прапановы, што павінны перш за ўсё падвысіць ступень эфэктыўнасьці выканаўчай улады й палепшыць выканальніцкую дысцыпліну ў нашым Фронце. Усю адказнасьць за магчымыя няўдачы (а ім я ўсімі сіламі буду намагацца запабегчы) я, безумоўна, бяру на сябе.

Жыве Беларусь!

Лявон Баршчэўскі



Пятро САДОЎСКІ

# Статыстыка павінна стаць публічнай

*Я — пэнсіянэр. Мая пэнсія пад сярэднюю цягне, а вось зарплата ўсіх маіх знаёмых бюджэтнікаў ды тых, хто на дзяржаўнай "зьдзельшчыне", ніяк на сярэднюю па Беларусі не выходзіць, а да афіцыйнай менскай — як да неба.*

У "Панараме тыдня" 27 студзеня намесьнік міністра эканомікі Андрэй Тур сказаў, што па Менску сярэдні заробак перавышае 900 000 рублёў. У маіх знаёмых менчукоў рэдка ў каго за 300 даляраў выходзіць. А калі выходзіць, то гэта — ці паўтары стаўкі, ці выпадковая даплата. Ёсьць сярод маіх знаёмых і кандыдаты навук, і дацэнты, і заслужаныя работнікі прамысловасьці. Пра знаёмых медсясьцёр, сваякоў у вёсцы ды маладых настаўнікаў я ўжо маўчу. Яны ледзь-ледзь да паловы афіцыйнай сярэдняй дацягваюць...

Вось і гадаем мы: адкуль жа тая сярэдняя выходзіць? Мой знаёмы кандыдат матэматычных навук, дацэнт ВНУ зь 10-гадовым стажам, што "чыстымі" 410 000 мае, толькі сьмяецца: "За кошт судзьдзяў, мытнікаў, кантралёраў, міліцыі, амону, генэралаў, дэпутатаў... Адзін чыноўнік 3-й клясы з сваёй зарплатай, прэміямі ды "лячэбнымі", што дадаюцца да адпачынку, пяць медсясьцёр да сярэдняй зарплаты падраўняе, калі іх скласьці разам ды падзяліць на шэсьць. Вось вам і статыстыка..."

Паспрабавалі мы зь ім праз інтэрнэт да афіцыйнай статыстыкі дабрацца, хто колькі на бюджэце зарабляе. Ня грэх ведаць, хто як на нашыя падаткі жыве. Не атрымалася. Няма дакладных дадзеных. Можа, мы шукаць ня ўмеем?

Няблага б нам, як, напрыклад, немцам, штогод выпускаць зборнік "Хто колькі зарабляе?", які можна было б знайсьці ў кнігарнях, бібліятэках або ў сеціве.

Нашыя кашалькі ніколі не былі асабліва пухнатыя, але сёньня людзі пачынаюць лічыць свае рублі вельмі акуратненька. Усе становяцца стыхійнымі статыстыкамі. Асабліва, калі дзяржава хавае інфармацыю пра тэндэры, кошты, заробкі наменклятуры, крыніцы фінансаваньня ... Сапраўдная публічная інфармацыя, зьвязаная са статыстыкай, можа даць адказы на шмат якія пытаньні, у тым ліку і на палітычныя.

Мяне ў свой час зацікавіла публікацыя Т. Манёнак у тыднёвіку "Беларусы і рынак" пра лёс мотавелазаводу, дзе я яшчэ пры саветах на працягу 4 гадоў працаваў інжынэрам-патэнтаведам. Маючы з таго часу знаёмых з "Мотавела", сачу за эпапеяй прыватызацыі як за дэтэктыўным сюжэтам. У навагоднім выпуску інфармацыйнага бюлетэня "Ленинский район сегодня" прачытаў аптымістычны матэрыял пра завод. Там ні слова пра тое, што кваліфікаваныя інжынэры займаюцца аснасткай пад шклатару "шматпрофільнага" холдынгу, а не пэрспэктыўнымі мадэлямі. Там ні слова і пра тое, што ветэранам завода, членам акцыянернага таварыства, якія мелі па некалькі дзесяткаў акцыяў, укладаючы ў разьвіцьцё вытворчасьці ўласныя сродкі, прапаноўваюць зараз за іх 20-30 тыс. беларускіх рублёў і не даюць ніякай фінансавай інфармацыі. Ніхто зь іх ня ведае, які зараз рынкавы кошт акцыі, як ацэньвала БТІ кошт нерухомасьці, дзе той дэпазітарый, дзе нібыта захоўваліся акцыі, чаму менавіта АТЕС Holding GmbH (як бы аўстрыйская фірма), а не, напрыклад, "Амкадор" (больш празрыстая і з бліжэйшай спэцыялізацыяй і добрай рэпутацыяй) атрымала правы на прыватызацыю і г. д. ? Тут такое поле для палітычнага і эканамічнага аналізу! Дасьледчыка чакае сімфонія лічбаў.

З Указу Прэзыдэнта РБ ад 26 ліпеня 2007 "Аб некаторых пытаньнях адкрытага акцыянернага таварыства МОТАВЕЛА" (п. 4.2) можна даведацца, што ў 2013 годзе цяперашні ўладальнік завода, калі ня выканае свае абавязацельствы, "мусіць заплаціць у дзяржбюджэт розьніцу паміж рынкавым коштам акцыяў на момант іх пакупкі ды іх намінальным коштам, вызначаным у ч. 1 падпункту 1.2 Указу". Незалежныя эксперты кажуць, што вызначыць тую штрафную розьніцу немагчыма. Як пойдзе рэальна аплата акцыяў, якая будзе стаўка рэфінансаваньня, як будуць вылічвацца працэнты зь неаплочанай сумы? За 6 гадоў можа столькі ўсяго зьмяніцца!

Або яшчэ адзін па-мастацку захапляльны лічбавы сюжэт: Дзяржаўнае УП "Водаканал" разарвала ўціхую пад шум адмены льготаў тысячы дамоваў з фізычнымі асобамі на 20%-ую зьніжку платы за ваду да 2010 г. ў кошт кампэнсацыі пакупкі карыстальнікамі за свой кошт лічыльнікаў расходу вады (кожны каштуе з устаноўкай больш за 200. 000 бел. руб.). Пры гэтым "Водаканал" ссылаецца на Пастанову СМ № 1366 ад 18. 10. 2007 г., што грунтуецца на некалькіх артыкулах Грамадзянскага кодэксу РБ (392, 378 ды інш).

Выходзіць, што любое дзяржаўнае УП можа так проста адмовіцца ад сваіх абавязацельстваў і абрабаваць фізічную асобу, — кожнага з нас, калі кіраўніцтва краіны (СМ ці Прэзідэнт) раптам абʼявяць: "Сацыялістычная Айчына ў небясьпецы!". А дзяржава наша — спрэс УП!

Вось дзе прастора разгуляцца лічбавай аналітыцы. Тут рублёвая статыстыка глядзіць у вялікую палітыку. Давайце разам ствараць публічную народную статыстыку. Пішыце ў "Навіны БНФ", што цікавага робіцца ў вас на месцах. Патрабуйце ад дзяржаўных установаў актуальную інфармацыю.

Вінцук ВЯЧОРКА

# БЕЛАРУСКІ БУСЕЛ ЛЯ PALAIS DE L'EUROPE

22 студзеня ў Штрасбургу прайшлі слуханьні паводле справаздачы Андрэа Рыгоні, новапрызначанага дакладчыка па Беларусі Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы (ПАРЭ). З судакладамі выступілі Наталя Андрэйчык з "Савету Рэспублікі Нацыянальнага сходу" і Вінцук Вячорка, сустаршыня палітычнае рады Аб'яднаных дэмакратычных сілаў і першы намесьнік старшыні Партыі БНФ.

Перад уваходам у Палац Эўропы лужок і мачты з 47-мю сьцягамі. А на лужку... бусел! Ён спакойна хадзіў, нешта шукаў у траве і зусім не спалохаўся, калі мы ўзяліся фатаграфавацца на ягоным фоне. Мэтафара сама просіцца: няхай сабе сьцягу нашага тут пакуль няма, але ж крылаты сымбаль краіны - ёсьць! Як належыць - белы, у чырвоных ботах.

Напярэдадні палітычны Штрасбург жыў інтрыгаю: хто будзе новым старшынём Парлямэнцкай асамблеі. Кадэнцыя бэльгійца Рэнэ ван дэр Ліндэна заканчвалася ў панядзелак. Ён надта хацеў бачыць сваім пераемнікам Міхаіла Маргелава, колішняга выкладчыка маскоўскай школы КГБ. Апошні візыт на пасадзе ван дэр Ліндэн нанёс у Расею. Там сустрэўся з Пуцінам, назваў сваімі сябрамі Маргелава з Рагозінам. І, як цьвердзіць знаны аналітык Vladimir Socor, паабяцаў Пуціну не запрашаць на гэтую сэсію ПАРЭ М.Саакашвілі ды адсунуць на як мага пазьней слуханьні пра антыдэмакратычнасьць апошніх расейскіх выбараў.

Папярэдняе рашэньне прымалася ў нядзелю на нарадзе кіраўнікоў групаў і віцэ-старшыняў. І - Маргелаў не прайшоў! Новы старшыня Асамблеі - найстарэйшы сябра ПАРЭ каталёнец Llu?s Maria de Puig, колішні актывіст антыфранкісцкага падпольля. І Саакашвілі запрасілі на сэсію ў чацьвер, і слуханьні пра расейскія выбары адбудуцца.

Пра што гэта сьведчыць і прычым тут нашая беларуская справа? А прытым, што ўпартыя спробы Расеі выдаваць сябе за дэмакратычную краіну ўжо не даюць выніку. Нават у такой пярэстай арганізацыі, як Рада Эўропы, перамог здаровы розум: бо калі пуцінскі стаўленік прадстаўляе ПАРЭ як форум абароны дэмакратычных каштоўнасьцяў, за ягонай сьпінай няўхільна паўстаюць цені забойцаў Паліткоўскай і Літвіненкі.

Падзеі на цэнтральнай сцэне ПАРЭ адлюстраваліся на настроях у падкамісіі па Беларусі Палітычнага камітэту Асамблеі. Скончыліся тры гады кадэнцыі яе старшыні эстонца Андрэса Хэркеля, сябра нашай партнэрскай партыі Isamaaliit-Res Publica. Калі расейцы запрапанавалі на старшыню падкамісіі А. Рыгоні, Хэркель, спаслаўшыся на тое, што дакладчык і старшыня мусяць быць розныя, своечасова вылучыў на сваю наступніцу сп-ню Sinikka Hurskainen, старшыню фінскай дэлегацыі.

Дарэчы, калі Р. ван дэр Ліндэн паехаў у Эстонію, каб асудзіць нібыта парушэньні правоў расейскамоўных, ён аскандаліўся: паблытаў у прамове Эстонію з Латвіяй. Пэўна, гэта толькі дадало эстонцам імпэту.

"Мы хочам стабільнасьці й дэмакратыі для нашай краіны, і мы хочам наблізіцца да выкананьня стандартаў Рады Эўропы, як сьведчыць наш плянаваны мараторыюм на сьмяротную кару", - сказала сп-ня Андрэйчык. І пусьцілася ў развагі пра "хуліганаў на вуліцах" у найлепшых традыцыях БТ ды рытуальныя заклікі да "дыялёгу".

Я раптам уцяміў, у чым падступнасьць слова "дыялёг". Мы яго разумеем як размову паміж грамадзтвам, з аднаго боку, і ўладамі - з другога, дзеля зьберажэньня незалежнасьці й руху Беларусі да эўрапейскіх крытэраў жыцьця. Размова можа адбывацца, калі неабходна, пры міжнародным пасярэдніцтве. А для ўлады "дыялёг" - пусты абмен ветлівасьцямі з эўрапейскімі арганізацыямі. Ніякага беларускага грамадзтва, ніякіх дэмакратычных сілаў у такім фармаце не патрэбна. На жаль, частка эўрапейскіх палітыкаў (асабліва ў ПАРЭ) гатовая выдаваць такі куртаты псэўдадыялёг за прагрэс. (Нагадаю, што ван дэр Ліндэн не дамагаўся нават наведаць вязьняў, ня ставіў хаця б гэтага як передумовы свайго спрэчнага прыезду ў Беларусь.)



Сп. Рыгоні выступіў супраць звужэньня кантактаў з уладамі Беларусі і назваў тры кірункі такога дыялёгу: скасаваньне сьмяротнай кары, адкрыцьцё інфармацыйнага цэнтру Рады Эўропы ў Менску (афіцыйны Менск: калі ласка!), а таксама магчымасьць для міжнародных прадстаўнікоў... усяго толькі наведваць палітычных вязьняў. Вынікае, што вызваленьні Дашкевіча, Аўтуховіча, Лявонава не зьвязаныя зь дзейнасьцю справаздаўцы па Беларусі. Гэта, хутчэй, вынік бескампраміснай пазіцыі Злучаных Штатаў.

Тым ня менш у дакладзе Рыгоні сказана: пры цяперашнім стане з правамі чалавека ў Беларусі немагчыма вяртаць ёй статус адмыслова запрошанай у ПАРЭ.

Я распавёў пра апошнія падзеі, зважаючы, што сп. Рыгоні быў у Менск ў кастрычніку, а з таго часу нямала зьмянілася. І выклаў нашыя патрабаваньні да выбараў, каб іх прызнаваў сьвет. Сп. Архіпаў з "палаты" адрэагаваў у спрэчках. І выдаў неўміручае: "Навошта ж увесь час гаварыць пра кепскае? Калі гаварыць кепскае, дык і будзе кепска. Трэба гаварыць добра, тады і будзе добра". Дарэчы, апекаваўся сп-вам Андрэйчык і Архіпавам у Штрасбургу малады і, відаць, пэрспэктыўны дыплямат Андрэй Сьцяпанавіч Сухарэнка.

"Ядзінаросс" Калесьнікаў безумоўна падтрымаў Андрэйчык, запатрабаваў вяртаць Беларусі статус адмыслова запрошанай у ПАРЭ. Тут не стрываў легендарны кіпрскі дэпутат Хрыстас Пургурыдэс - той самы, што дасьледаваў справы зьніклых беларускіх палітыкаў. У палымянай прамове ён заявіў, што альбо крытэры дэмакратыі адзіныя для ўсіх, альбо крытэраў увогуле няма. Заля ацаніла выступ воплескамі. Падсумоўчы дакумэнт не прымаўся, дыскусія наконт Беларусі будзе доўжыцца.

Рэзюмэ такое. Часовае ўмацаваньне расейскіх пазыцыяў у ПАРЭ адыходзіць у мінуўшчыну. Нашыя незалежніцкія трывогі знаходзяць разуменьне бальшыні эўрапейцаў. Аднак гаворачы пра "дыялёг", трэба дакладна вызначаць, што маецца на ўвазе.

А бусел на лужку ператворыцца ў 48-мы сьцяг на мачце толькі тады, калі гэта будзе бел-чырвона-белы сьцяг. Іншага колеру бусел не зразумее.

Дзяніс МЕЛЬЯНЦОЎ,
выкладнік ЭГУ

# Уваход у NATO - крок цывілізацыйнага выбару

- **Якія ёсьць мэты NATO і што гэтая арганізацыя ўяўляе сабой сёньня?**

- Па-першае, я прынцыпова нязгодны з ужываньнем акроніму NATO. Пад час лекцыяў у ЭГУ і ў сваіх тэкстах я звычайна выкарыстоўваю беларускамоўны скарот АПАД — Арганізацыя паўночна-атлянтычнай дамовы — па аналёгіі з іншымі скаротамі назваў міжнародных арганізацыяў. Напрыклад, ААН ці АБСЕ.

Арганізацыя паўночна-атлянтычнай дамовы ў сваім разьвіцьці значна трансфармуецца. Утварылася яна 4 красавіка 1949 году ў Вашынгтоне як вайсковы блёк, мэта якога — абарона сваіх сябраў ад агрэсіі трэціх краінаў. Гэта значыць, калі нейкая краіна нападае на краіну-сябра АПАД, то гэты напад разглядаецца як агрэсія супраць усіх краін арганізацыі адначасова. Альянс ствараўся ў варунках халоднай вайны, біпалярнага сьвету, у сытуацыі магчымасьці рэальных ваенных канфліктаў. Адпаведна ў час свайго станаўленьня яна была вайскова-палітычным блёкам.

Пасьля заканчэньня халоднай вайны, распаду СССР, роспуску арганізацыі Варшаўскай дамовы АПАД у нейкай ступені згубіла мэту свайго існаваньня. Можна сказаць, што менавіта распад СССР адыграў злосны жарт з Арганізацыяй паўночна-атлянтычнай дамовы. Яна страціла галоўную пагрозу, для стрыманьня якой у свой час стваралася. 1990-1995 гг. — вельмі складаны час для Альянсу, пэрыяд пошуку ўласнай ідэнтычнасьці, вызначэньня мэтазгоднасьці яго існаваньня. У той час сярод палітычных лідэраў і навукоўцаў не было дакладнага адказу на пытаньні: "Ці патрэбная такая арганізацыя? Якімі мусяць быць яе мэты?". Тым больш, што было джэнтльмэнскае пагадненьне зь лідэрам СССР аб тым, што АПАД ня будзе пашырацца на Ўсход і фактычна застанецца закрытым клюбам.

Як ні дзіўна, але выжываньню альянсу дапамаглі бальканскія войны. Тады стала зразумела, што самастойна эўрапейскія краіны ў межах Эўразьвязу ня маюць магчымасьцяў і сілаў спыніць гэтыя войны. Было вырашана запрасіць АПАД прыняць удзел ва ўрэгуляваньні канфлікту. Лідэры альянсу за гэта ўхапіліся, і гэта на некаторы час зрабілася місіяй для арганізацыі. І з таго часу міратворчыя місіі сталіся адной з асноўных мэтаў існаваньня арганізацыі.

Разам з гэтым станавілася відавочна, што ў аднапалярным сьвеце буйнамаштабных канфліктаў ужо ня будзе, палітыка стрымліваньня ўжо абсалютна неадэкватная, таму трэба рабіць стаўку на міратворчасьць, на ўрэгуляваньне канфліктаў, чым і пачала займацца АПАД. Такім чынам пэрыяд ад распаду СССР і да 1999 году — гэта час паступовай палітызацыі АПАД, ператварэньня яе з вайскова-палітычнага блёку ў палітыка-вайсковую арганізацыю. І зараз на першым пляне ў ёй знаходзяцца не стратэгічныя, а палітычныя матывы. Тады ж прымаецца рашэньне пра пашырэньне АПАД як палітычнага блёку, гэта значыць, што лідэры заходніх краін вырашылі запоўніць вакуум геапалітычнага ўплыву, які ўтварыўся на тэрыторыі Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Такім чынам ў межах АПАД у 1994 годзе была ўтвораная праграма "Партнэрства дзеля міру", новым незалежным краінам былі разасланыя запрашэньні для ўдзелу ў гэтай праграме. Праграма ў сваю чаргу была скіраваная на тое, каб, па-першае, падрыхтаваць, падцягнуць да ўзроўню апаратыўнай сумяшчальнасьці краіны для ўваходжаньня ў АПАД, а па-другое, правядзеньне вайсковых рэформаў у гэтых краінах. Сярод тых краін, якія далучыліся да праграмы, была і Беларусь.



Была таксама ўтвораная Рада Паўночна-атлянтычнага супрацоўніцтва, дзе лідэры краінаў-удзельніц праграмы "Партнэрства дзеля міру" маглі вырашаць стратэгічныя пытаньні. Такім чынам АПАД спрабуе праектаваць свой уплыў на краіны былога сацыялістычнага блёку.

У 1999 годзе адбываецца першае пашырэньне АПАД, калі да яе далучаюцца Вугоршчына, Польшча і Чэхія. Гэтым пашырэньнем запачаткавалася пашырэньне Альянсу на Ўсход.

- **Чаму Чэхія, Польшча, Балтыйскія краіны спачатку ўвайшлі ў NATO і толькі пасьля — у Эўразьвяз?**

- Трэба сказаць, што АПАД і Эўразьвяз — арганізацыі абсалютна розныя па сваіх мэтах, хоць у яе і ўваходзяць прыкладана адны і тыя ж краіны. Эўразьвяз — гэта перадусім эканамічны праект эўрапейскіх краінаў, у якім зараз даволі дынамічна разьвіваецца вайскова-палітычнае апірышча. А АПАД — гэта найперш вайсковы альянс. Уступленьне краінаў у АПАД і ў Эўразьвяз — гэта дзеяньні з рознымі матывацыямі. Уступленьне ў АПАД — гэта жаданьне атрымаць гарантыю бясьпекі. Для Польшчы, Чэхіі, краінаў Балтыі — гэта гарантыя незваротнасьці выхаду з-пад уплыву Расеі. А гарантам выступае наймагутнейшы саюзьнік - Злучаныя Штаты Амэрыкі. Уступленьне ж у ЭЗ гэтым краінам дае вяртаньне ў Эўропу і падвышэньне эфэктыўнасьці эканомікі. Эўразьвяз тут выступае страховачным мэханізмам, які трымае эканоміку пэўнай краіны на адпаведным узроўні, не дапускаючы яго моцнага зрушэньня. І другі бок Эўразьвязу — гэта ўзровень каштоўнасьцяў — дэмакратыі, правоў чалавека, рынкавай эканомікі.

Некаторыя аналітыкі кажуць, што ўступленьне ў АПАД — неабходная ўмова для ўступленьня ў Эўразьвяз. Але гэта не зусім так, бо існуюць краіны, якія ёсьць сябрамі Эўразьвязу, але не ўступалі ў АПАД. Гэта так званыя нэўтральныя краіны — такія як Аўстрыя, Ірляндыя, Швэцыя. Яны вельмі актыўна ўдзельнічаюць у Эўразьвязе, аднак не ўваходзіць у вайсковыя і палітычныя арганізацыі. Зь іншага боку на пэўным этапе ЗША выставілі патрабаваньне, каб краіны ўступалі спачатку ў АПАД, а толькі пасьля ў ЭЗ. Такім

# Уваход у NATO - крок цывілізацыйнага выбару

пачатак на старонцы 6

чынам, яны траплялі б пад моцны ўплыў ЗША. Зрэшты, патрабаваньне не было замацаванае юрыдычна.

АПАД і ЭЗ — узаемадапаўняючыя паралельныя працэсы. Адно без другога магчыма, але непажадана.

**- Як выглядае сёньня супрацоўніцтва NATO з Украінай?**

- Украіна, як і шэраг іншых краінаў былога СССР, удзельнічае ў праграме "Партнэрства дзеля міру", у Радзе эўраатлянтычнага партнэрства. Апроч таго паміж Украінаю і АПАД падпісаная эксклюзыўная дамова пра партнэрства. Прыкладна такая ж, якая падпісаная паміж АПАД і Расеяй. Украіна — вялікая краіна, зь вялікай колькасьцю насельніцтва, знаходзіцца ў стратэгічна важным рэгіёне. Таму Украіна мае выключныя адносіны з АПАД, не такія, якія мае Малдова, Беларусь, іншыя краіны былога Савецкага Саюзу. Украіна актыўна ўдзельнічае ў праграмах АПАД: у апэрацыях у Іраку, у Афганістане, у вайсковых вучэньнях NATO.

**- На якім узроўні знаходзяцца адносіны Беларусі і NATO?**

- Беларусь афіцыйна далучылася да праграмы "Партнэрства дзеля міру" ў 1996 годзе. З гэтага ж часу пачалася распрацоўка для Беларусі індывідуальнай праграмы партнэрства, дзе быў закладзены шэраг сумесных мерапрыемстваў. Звычайна такія праграмы робяцца на два гады. Апошняя праграма, якая была выкананая, гэта была праграма на 2006-2007 гады. Зараз яна скончылася. Вядзецца зацьвярджэньне новай праграмы на наступны пэрыяд.

З 1999 году колькасьць супольных мерапрыемстваў паступова, але няўхільна павялічваецца. У адносінах паміж Беларусьсю і АПАД існуе парадаксальная сытуацыя. З аднаго боку прапаганда палохае беларусаў "агрэсіўным блёкам", які быццам бы зьбіраецца нас бамбаваць. Чаму? Таму што любой аўтарытарнай краіне неабходны вобраз ворага. А АПАД — вельмі выгодны вораг у дадзенай сытуацыі. Зь іншага боку ўзровень супрацоўніцтва АПАДаўскіх вайскоўцаў і вайскоўцаў беларускіх знаходзіцца на даволі прыстойным узроўні, які становіцца больш і больш высокім. Беларусь удзельнічае ў шэрагу тыповых мерапрыемстваў: вывучэньне беларускімі вайскоўцамі ангельскай мовы і ангельскай вайсковай тэрміналёгіі, стажыроўка беларускіх вайскоўцаў на эўрапейскіх вайсковых базах, сэмінары па розных аспэктах вайсковай практыкі, мерапрыемствы для падвышэньня апэратыўнай баявой сумяшчальнасьці. З 2005 году беларускія вайскоўцы таксама прымаюць удзел у вучэньнях АПАД.

**- Якія выгоды можа атрымаць Беларусь ад супрацоўніцтва і ў пэрспэктыве ад уваходжаньня ў NATO?**

- Збалянсаванасьць стратэгічных вайскова-палітычных адносінаў. Бясьпека Беларусі не павінна быць завязанай толькі на адным саюзьніку, тым больш такім ненадзейным, як Расея. Супрацоўніцтва з АПАД дае магчымасьць палітычнай і вайсковай дывэрсыфікацыі. Гэта дае магчымасьць беларускім вайсковым сілам падцягнуць свой узровень да ўзроўню стандартаў АПАД, магчымасьць удзелу ў разнастайных міратворчых місіях, якія зараз ва ўсім сьвеце праводзяцца пад эгідай АПАД, павялічыць сваю баяздольнасьць, атрымаць досьвед удзелу ў такіх апэрацыях, падвысіць міжнародны прэстыж краіны.

Уступленне ў АПАД — гэта таксама цывілізацыйны выбар, канчатковы выбар паміж Расеяй і Эўропай. Гэта гарантыя бясьпекі ад ЗША і іншых сяброў арганізацыі. Гэта значыць, што Беларусь цалкам выходзіць са сфэры ўплыву Расеі. Гэта сумесныя апэрацыі, фінансавая падтрымка вайсковых рэформаў у Беларусі, удзел у навуковых праектах у межах АПАД, далучэньне да магчымасьці плянаваць апэрацыі. Але самае галоўнае — гэта гарантыя бясьпекі, гэта значыць, што Беларусь апынецца пад вайскова-палітычным парасонам АПАД і ЗША. І ніякіх канфліктаў на беларускім памежжы ня будзе, нягледзячы на тое, што будзе адбывацца ў той жа Расеі.

**- Ці будзе Беларусь далучацца да NATO?**

- Зараз Беларусь стаіць перад выбарам: распачаць інтэграцыю ў заходнія структуры, альбо працягваць інтэграцыю з Расеяй. Зараз у беларускім урадзе адбываецца выбар далейшага шляху разьвіцьця. З наяўнай палітычнай сытуацыі ўваходжаньне ў заходнія структуры немагчымае, таму вядзецца пошук таго, якім чынам можна палепшыць адносіны з ЭЗ і АПАД, аднак без дэмантажу існуючай палітычнай сістэмы. Існуе разуменьне і таго, што інтэграцыя з Расеяй сябе вычарпала. У беларускіх вайскоўцаў адбываецца пэўная эвалюцыя ў сьвядомасьці, яны бачаць, якія існуюць стандарты на Захадзе, якая існуе структура ўзброеных сілаў у заходніх краінах, наколькі дэмакратычнай ёсьць АПАД, наколькі ў ёй кожная краіна можа мець уплыў. Такое паступовае ўцягваньне, нарошчваньне кантактаў вельмі карысныя для самога працэсу інтэграцыі Беларусі ў эўра-атлянтычныя структуры.

**- Як адбываецца ўваход краіны ў NATO?**

- Для ўступленьня патрэбны кансэнсус сярод палітычных элітаў. Урад дзяржавы, палітычныя партыі, апазыцыя павінны прыйсьці да згоды ў пытаньні ўваходжаньня ў Паўночна-Атлянтычны Альянс. Апроч кансэнсусу павінна існаваць падтрымка ў грамадзтве. Пасьля гэтага краіна дасылае заяўку на ўступленьне ў АПАД. Далей распачынаецца складаны працэс разгляду ў Радзе Паўночна-атлянтычнага альянсу мэтазгоднасьці і магчымасьці ўступу краіны ў АПАД. Для краіны-кандыдата распрацоўваецца адмысловая праграма па падрыхтоўцы да сяброўства ў АПАД. Гэта краіна мусіць адаптаваць сваё заканадаўства да вайсковага і палітычнага заканадаўства ў краінах АПАД. Павінны быць праведзеныя палітычная і вайсковая рэформы. Урэшце, пасьля адпаведных маніторынгаў, прымаецца рашэньне, пра тое, што краіна адпавядае альбо не адпавядае крытэрам сяброўства. Пасьля гэтага падпісваюцца дакумэнты пра ўступленне краіны ў Альянс і адбываецца афіцыйная цырымонія прыёму. Калі Беларусь зьбіраецца ўступіць у NATO, то гэта справа 7-10 год. Гэта калі, заяўку падаць сёньня.

Падрыхтавала
**Ната СЕНІНА**

# Валер Пуцiцкi -

## кіраўнік Гомельскай абласной арганізацыі Партыі БНФ

Валер Пуціцкі нарадзіўся 12 сакавіка 1967 году. Жыве ў Рэчыцы. Адукацыя вышэйшая. Жанаты. Мае двух дзяцей- Яраміра і Радаславу. У Партыі БНФ з моманту яе заснаваньня. У 1991 годзе пачаў ствараць у Рэчыцы арганізацыю БНФ «Адраджэньне». З 1999 году зьяўляецца кіраўнікам раённай рэчыцкай арганізацыі.



27 студзеня ў Гомелі адбылася справаздачна-выбарчая канфэрэнцыя Гомельскай абласной арганізацыі Партыі БНФ.

Новым кіраўніком абласной арганізацыі быў абраны Валер Пуціцкі. У абласную раду ўвайшлі Валер Пуціцкі, былы старшыня арганаізацыі Віктар Раманішка, а таксама Анатоль Паплаўны, Юрась Чаранкоў, Алена Масьлюкова, Мікола Пагодзін і Зьміцер Жалезьнічэнка. На паседжаньні прысутнічалі намесьнік старшыні Партыі БНФ Аляксей Янукевіч і адказны сакратар Управы Партыі БНФ Уладзімер Лабковіч. Яны давялі да прысутных інфармацыю пра палітычную сытуацыю ў краіне, распавялі пра задачы і мэты, якія стаяць перад партыяй на бліжэйшы час.

Адказны сакратар Управы Партыі БНФ Уладзімер Лабковіч задаволены вынікамі канфэрэнцыі: "Я ўсьцешаны, што абласная канфэрэнцыя высока ацаніла працу былога старшыні арганізацыі Віктара Раманішкі, які кіраваў структурай у цяжкія для яе часы. Я ўпэўнены, што новаабраны старшыня і рада, якія вельмі пазытыўна паставіліся да пляну працы, выкладзенага мною і Аляксеем Янукевічам, будуць добра і эфэктыўна працаваць на карысьць Беларусі".

Падчас канфэрэнцыі абмяркоўвалася праблема Зьмітра Жалезьнічэнкі, які ўжо знаходзіцца ў войску ў Жлобіне. Прадстаўнікі жлобінскай арганізацыі Партыі БНФ узяліся сачыць за сытуацыяй і дапамагаць Зьмітру.

**Ната СЕНІНА**

## Сойм Партыі БНФ 12 студзеня зацьвердзіў склад Управы і сьпіс камісіяў

### Управа Партыі БНФ:

1. **Барщчэўскі Лявон**. Старшыня Партыі БНФ, старшыня палітычнай камісіі
2. **Вячорка Вінцук**. Першы намесьнік старшыні Партыі БНФ, старшыня міжнароднай камісіі
3. **Губарэвіч Юрась**. Намесьнік старшыні Партыі БНФ
4. **Івашкевіч Віктар**. Намесьнік старшыні Партыі БНФ
5. **Красоўская Наталя**. Сакратар-канцлер
6. **Лабковіч Уладзімер**. Адказны сакратар Управы, старшыня арганізацыйна-праўнай камісіі
7. **Мальчык Сяргей**. Сакратар Управы па працы з тэрытарыяльнымі арганізацыямі Партыі БНФ
8. **Міхалевіч Аляксей**. Намесьнік старшыні Партыі БНФ
9. **Саротнік Андрэй**. Сакратар Управы па асобых даручэньнях
10. **Сьвяцкая Валянціна**. Сакратар Управы па арганізацыйных пытаньнях
11. **Янукевіч Аляксей**. Намесьнік старшыні Партыі БНФ.

Таксама ў склад Управы ўваходзяць сакратары Ўправы і прадстаўнікі камісіяў Партыі БНФ.

### Камісіі Сойму Партыі БНФ і іх старшыні:

1. Палітычная камісія ПБНФ – **Лявон Баршчэўскі**;
2. Міжнародная камісія ПБНФ – **Вінцук Вячорка**;
3. Арганізацыйна-праўная камісія – **Уладзімер Лабковіч**;
4. Камісія па сувязях з грамадзкасьцю – **Вацлаў Арэшка**;
5. Камісія па працы з жанчынамі – **Валянціна Сьвяцкая**;
6. Каміісія па экалёгіі і наступствах чарнобыльскай катастрофы – **Юрась Меляшкевіч**;
7. Камісія па культуры – **Франак Вячорка**;
8. Моладзевая камісія – **Алесь Каліта**;
9. Камісія партыйнага кантролю – **Юрась Хадыка**;
10. Аналітычныя камісія - **Пятро Садоўскі**;
11. Інфармацыйная камісія - **Аляксей Янукевіч**;
12. Камісія па працы з сацыяльна-эканамічнымі мэтавымі групамі – **Сяргей Антусевіч**;
13. Камісія рэгіянальнага разьвіцьця – **Зьміцер Бабіцкі**.